іх на калені. Гэта пашыранае ўяўленне ў значнай ступені абапіраецца на кананізаваныя выявы евангелістаў у рукапісах XIV — XVI стст. Разам з пергаментам у рукапіснай вытворчасці з XIV ст. стала выкарыстоўвацца больш танная папера. Інтэнсіфікацыя працы перапісчыкаў садзейнічала выпрацоўцы новых, больш практычных тыпаў пісьма (паўустаў, пазней — скарапіс).



Мініяцюра з Лаўрышаўскага евангелля. XIV ст.

Асноўным сродкам пісьма заставалася гусінае пяро. Асаблівай увагі патрабавала яго завострыванне (зрэз, расшчэп), якое мянялася ў залежнасці ад таго, да якога пісьма — «вялікага», радковага, «знаменнага» — пяро было прызначана. Трысціна кніжніка-скарапісца (трысцінавае пяро з тупым расшчэпам) упамянута ў супрасльскім выданні 1722 г. Пра тое, што ім карысталіся ў скрыпторыях XIV—XVI стст., няма звестак. Для пісьма ўжывалася рознае чарніла: фарбы, што ўключалі розныя арганічныя і мінеральныя кампаненты, кінавар, тваронае золата і інш. Сляды разліноўкі радкоў (пры дапамозе лінейкі або каракасы — рамкі з нацягнутымі на ёй паралельнымі ніцямі) захаваліся ў Слуцкім евангеллі 1539 г. і ў іншых рукапісах.

Найбольш пашыраным фарматам кнігі ў XI — XV стст. быў памер «у аркуш», або ў «десть», як ён абазначаўся ў старажытных вопісах бібліятэчных збораў. Праца пісцоў была цяжкай



і стамляючай. Браслаўскі кашталян В. Загароўскі ў 1577 г. абавязваў свайго дзяка спісваць «з добрага зводу» па тры «дестных» сшыткі ў тыдзень. «А на год полътрыста тетрадей паперы на то, киноварь, орешъков, копырвасу і кгумю на черныло» [73].

З асаблівай павагай ставіліся перапісчыкі кніг да біблейскіх і іншых кананічных тэкстаў. На той час наўмыснае скажэнне ў перапісцы гэтых кніг было раўназначна ерасі, адступленню ад шчырай веры, святатацтвам, таму асобныя пісцы аднаўлялі нават запісы, што не адносіліся да тэксту, або яўныя памылкі арыгіналаў. Пра гэтыя рысы сярэдневяковай рукапіснай практыкі з'едліва адзываўся Сымон Будны [74]. У буйных скрыпторыях нярэдка ўзнікалі рознагалоссі адносна таго, як тлумачыць і пісаць тэкст той або іншай кнігі. У 1530-я гады манах Супрасльскага манастыра Арсеній даносіў мітрапаліту, што архімандрыт Сергій Кімбар скажае сваёй праўкай многія рукапісы, прымушае весці службу па нявыпраўленых кнігах [75]. Кімбар адказваў мітрапаліту: «Я, милостивый отче, заступлениемь богородици и великого Богослова от себе жадного комата [пункта] церковного правила не отложил, а ни приложил; нижълим справовал и теперь справую церковь божию в тых коматехь его выпису [г. зн.— Арсенія] водле типика и святогорскаго и иншых стран тамошьних честных монастырей частослова, отколе ж нам Руси закон святый православный выдан, и книгы святыи правилныи церковныя и вчителныя на нашь словенский язык воложеныя вынесены...» [76] Больш поўную уніфікацыю кананічных тэкстаў (у межах адзінай канфесіі) прынесла толькі кнігадрукаванне.

У беларускім кнігапісанні (перш за ўсё ў буйных майстэрнях) існаваў пэўны падзел працы, што сведчыла пра параўнальна высокі ўзровень развіцця гэтага спецыфічнага віду рамеснай вытворчасці. Найбольш прыкметна гэта выявілася ў аддзяленні працы перапісчыкаў-каліграфаў ад мастакоў-ілюстратараў. Вядомы рукапісы XV — XVI стст., дзе завершаны тэкст, але пакінуты пустымі месцы, прызначаныя для мініяцюр, заставак, ініцыялаў (напрыклад, кніга «Козма Індикоплов», якая належала Супрасльскаму манастыру). Некаторыя кодэксы ўпрыгожваў сам пісец, калі ён меў адпаведныя навыкі.

Працэс вырабу рукапіснай кнігі ўключаў розныя па свайму характару віды дзейнасці і часам ажыццяўляўся ў форме своеасаблівай кааперацыі. Рукапісны Пралог быў завершаны некалькімі пісцамі ў Навагрудку 12 жніўня 1512 г., «слестован» дыяканам Ігнацыем у Вільні, 20 жніўня пераплецены «рукою иерея Пръфирия» ў Любчы [77].

[73] Архив ЮЗР. Киев, 1859. Ч. 1. Т. 1. С. 82.
[74] Nowy Testament. Łosk, 1574. S. 21, 27.
[75] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры/Склаў А. Ф. Коршунаў. Мн., 1959. С. 162.
[76] Там жа.
[77] Нікалаеў М. Н. Рукапісная кніга на Беларусі... С. 51.



Мініяцюра з Лаўрышаўскага евангелля. XIV ст.

беларускага кнігадрукавання ён разглядаў у непарыўнай сувязі з «вялікай гаспадарчай перабудовай» як у Заходнім свеце, так і ў «Літоўска-беларускай дзяржаве». У прыватнасці, ён адзначаў развіццё гарадоў на Беларусі і ў Літве ў XVI ст., рамёстваў, промыслаў, гандлю, з'яўленне буйных купецкіх аб'яднанняў (гільдый), ажыўленне грамадскай дзейнасці гараджан. Некалькі абстрактным здаецца сцвярджэнне даследчыка, быццам на светапогляд Скарыны аказвалі ўплыў вечавыя традыцыі Полацка. У ацэнцы духоўнага жыцця на Беларусі ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. М. Доўнар-Запольскі яўна перабольшвае ўплыў заходняй цывілізацыі [43].

Найбольш прыкметны ўклад у вывучэнне эпохі Скарыны ў савецкай гістарыяграфіі ўнёс У. Пічэта (1878—1947), адзін з пачынальнікаў беларускай медыявістыкі. Разглядаючы творчасць Скарыны як з'яву рэнесанснай культуры, ён упершыню паставіў пытанне аб беларускім Адраджэнні ў навуковым плане. Паводле меркаванняў У. Пічэты, сацыяльнай асновай беларускага Адраджэння была зямельная арыстакратыя, шляхецкая дэмакратыя, часткова гарадскія слаі, якія падтрымлівалі «нацыянальны ў сваёй аснове, індывідуалістычны па характару» гуманістычны рух [44]. Асобную ролю ў зараджэнні новай культуры адыгрывалі гандлёвыя сувязі з Заходняй Еўропай, распаўсюджванне рымскага права, вучоба «ліцвінаў» за мяжою.

У пасляваенны перыяд У. Пічэта шмат у чым пераглядзеў свае погляды. Галоўную ўвагу ён удзяліў аналізу ўнутраных сацыяльна-эканамічных і этна-культурных перадумоў беларускага Адраджэння — развіццю буйной зямельнай уласнасці, гарадской цывілізацыі, фарміраванню беларускай народнасці [45].

У. Пічэта толькі прыблізна вызначыў этапы станаўлення Адраджэння на Беларусі. Некаторыя яго сцвярджэнні, што датычаць часоў Скарыны, даволі праблематычныя. Спрэчным здаецца яго вывад аб Адраджэнні як аб агульнай стадыі культурна-гістарычнага развіцця ўсіх усходнеславянскіх народаў. Асноўныя канцэптуальныя палажэнні У. Пічэты ўдакладнілі і развілі вучоныя пасляваеннага часу, пераважна філосафы (У. Конан, С. Падокшын і інш.).

У канцы 20-х — 30-я гады навуковае даследаванне творчасці Скарыны спынілася амаль поўнасцю. Палітычны заказ абумовіў ажыўленне сацыяльна-вульгарызатарскіх канцэпцый у ацэнцы

[43] Доўнар-Запольскі М. Да юбілею беларускага кнігадруку//Гістарычна-археалагічны зборнік. С. 85, 93—94.

[44] Пичета В. И. История белорусского народа: Курс белоруссоведения. М., 1918—1920. С. 37—38; Яго ж. Белоруссия и Литва XV — XVI вв., М., 1961. С. 774—775.

[45] Пичета В. И. Белоруссия и Литва... С. 715—730.



дзейнасці многіх выдатных дзеячаў беларускай культуры, у тым ліку Скарыны [46].

Пасля Вялікай Айчыннай вайны абуджаецца цікавасць да гістарычнай і культурнай спадчыны славянскіх народаў. З'яўляюцца новыя навуковыя і папулярныя працы, у якіх асвятляюцца жыццё і дзейнасць Скарыны, яго светапогляд, гісторыя беларускага кнігадрукавання [47]. Дзейнасці Скарыны прысвечаны кандыдацкія дысертацыі В. У. Чапко і М. А. Алексютовіча. В. У. Чапко першая пазнаёміла навуковых даследчыкаў гісторыі Беларусі з працамі А. В. Флароўскага [48].

Значным дасягненнем у гістарыяграфіі стала першая абагульняючая праца савецкага скарыназнаўства — манаграфія М. А. Алексютовіча «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд». У кнізе даследаваны асноўныя праблемы сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця Беларусі ў першай палавіне XVI ст., жыццё і дзейнасць Скарыны, светапогляд, уплыў творчай спадчыны Скарыны на развіццё пісьменнасці. Першы раздзел ў значнай ступені ўзнаўляе афіцыйныя пастулаты з гістарычнай навукі сярэдзіны 50-х гадоў [49]. Аўтар сцвярджае, што грамадскае і сацыяльна-эканамічнае жыццё беларускага насельніцтва ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. развівалася ва ўмовах цяжкага класавага і нацыянальнага прыгнёту, пастаяннай барацьбы беларускага і ўкраінскага народаў за ўз'яднанне з Расіяй. Палітычнае ўзмацненне Рускай дзяржавы стымулявала цэнтрабежныя тэндэнцыі, рост «агульнарускага» патрыятызму ва ўсіх усходнеславянскіх землях. Каталіцкая агрэсія была накіравана на ўмацаванне панавання польскіх феадалаў, адрыў Беларусі і Украіны ад Расіі. Аўтар яўна не ўлічваў, што Вялікае княства Літоўскае з'яўлялася самастойнай дзяржавай і ўнутраную палітыку ажыццяўлялі мясцовыя феадалы [50].

У кнізе аналізуюцца сацыяльныя і культурна-асветніцкія, гуманістычныя погляды Скарыны, дэмакратызм яго дзейнасці, моцныя і слабыя бакі ягонага светапогляду [51]. Паводле мерка-

[46] Ботвинник М. Б. Изучение жизни и деятельности Франциска Скорины в БССР//Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 124; Нёміроўскі Я. Л. Скарыназнаўства: вынікі і перспектывы//Спадчына Скарыны. Зб. артыкулаў. М., 1989. С. 13—14.

[47] Ломцеў Ц. П. Скарына як пачынальнік беларускай літаратурнай мовы; Перцаў У. М. Грамадская дзейнасць і светапогляд Г. Скарыны//ВАН. 1948. № 6. С. 21—32; Сидоров А. А. История оформления русской книги. М.; Л., 1946. С. 34—36, 61—62, 67; Яго ж. Древнерусская книжная гравюра. М., 1951. С. 32, 40—42, 94—95 і інш.

[48] Чепко В. В. Общественная и культурная деятельность Георгия Скорины. Автореф. дис... канд. ист. наук. Мн., 1953.

[49] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958. С. 19—39.

[50] Там жа. С. 27—29.

[51] Там жа. С. 4, 75—121.




Іаан на востраве Патмас. Мініяцюра з Жухавіцкага евангелля XVI ст.

беларускага кнігадрукавання ён разглядаў у непарыўнай сувязі з «вялікай гаспадарчай перабудовай» як у Заходнім свеце, так і ў «Літоўска-беларускай дзяржаве». У прыватнасці, ён адзначаў развіццё гарадоў на Беларусі і ў Літве ў XVI ст., рамёстваў, промыслаў, гандлю, з'яўленне буйных купецкіх аб'яднанняў (гільдый), ажыўленне грамадскай дзейнасці гараджан. Некалькі абстрактным здаецца сцвярджэнне даследчыка, быццам на светапогляд Скарыны аказвалі ўплыў вечавыя традыцыі Полацка. У ацэнцы духоўнага жыцця на Беларусі ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. М. Доўнар-Запольскі яўна перабольшвае ўплыў заходняй цывілізацыі [43].

Найбольш прыкметны ўклад у вывучэнне эпохі Скарыны ў савецкай гістарыяграфіі ўнёс У. Пічэта (1878—1947), адзін з пачынальнікаў беларускай медыявістыкі. Разглядаючы творчасць Скарыны як з'яву рэнесанснай культуры, ён упершыню паставіў пытанне аб беларускім Адраджэнні ў навуковым плане. Паводле меркаванняў У. Пічэты, сацыяльнай асновай беларускага Адраджэння была зямельная арыстакратыя, шляхецкая дэмакратыя, часткова гарадскія слаі, якія падтрымлівалі «нацыянальны ў сваёй аснове, індывідуалістычны па характару» гуманістычны рух [44]. Асобную ролю ў зараджэнні новай культуры адыгрывалі гандлёвыя сувязі з Заходняй Еўропай, распаўсюджванне рымскага права, вучоба «ліцвінаў» за мяжою.

У пасляваенны перыяд У. Пічэта шмат у чым перагледзеў свае погляды. Галоўную ўвагу ён удзяліў аналізу ўнутраных сацыяльна-эканамічных і этна-культурных перадумоў беларускага Адраджэння — развіццю буйной зямельнай уласнасці, гарадской цывілізацыі, фарміраванню беларускай народнасці [45].

У. Пічэта толькі прыблізна вызначыў этапы станаўлення Адраджэння на Беларусі. Некаторыя яго сцвярджэнні, што датычаць часоў Скарыны, даволі праблематычныя. Спрэчным здаецца яго вывад аб Адраджэнні як аб агульнай стадыі культурна-гістарычнага развіцця ўсіх усходнеславянскіх народаў. Асноўныя канцэптуальныя палажэнні У. Пічэты ўдакладнілі і развілі вучоныя пасляваеннага часу, пераважна філосафы (У. Конан, С. Падокшын і інш.).

У канцы 20-х — 30-я гады навуковае даследаванне творчасці Скарыны спынілася амаль поўнасцю. Палітычны заказ абумовіў ажыўленне сацыяльна-вульгарызатарскіх канцэпцый у ацэнцы

[43] Доўнар-Запольскі М. Да юбілею беларускага кнігадруку//Гістарычна-археалагічны зборнік. С. 85, 93—94.

[44] Пичета В. И. История белорусского народа: Курс белоруссоведения. М., 1918—1920. С. 37—38; Яго ж. Белоруссия и Литва XV — XVI вв., М., 1961. С. 774—775.

[45] Пичета В. И. Белоруссия и Литва... С. 715—730.



дзейнасці многіх выдатных дзеячаў беларускай культуры, у тым ліку Скарыны [46].

Пасля Вялікай Айчыннай вайны абуджаецца цікавасць да гістарычнай і культурнай спадчыны славянскіх народаў. З'яўляюцца новыя навуковыя і папулярныя працы, у якіх асвятляюцца жыццё і дзейнасць Скарыны, яго светапогляд, гісторыя беларускага кнігадрукавання [47]. Дзейнасці Скарыны прысвечаны кандыдацкія дысертацыі В. У. Чапко і М. А. Алексютовіча. В. У. Чапко першая пазнаёміла навуковых даследчыкаў гісторыі Беларусі з працамі А. В. Флароўскага [48].

Значным дасягненнем у гістарыяграфіі стала першая абагульняючая праца савецкага скарыназнаўства — манаграфія М. А. Алексютовіча «Скарына, яго дзейнасць і светапогляд». У кнізе даследаваны асноўныя праблемы сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця Беларусі ў першай палавіне XVI ст., жыццё і дзейнасць Скарыны, светапогляд, уплыў творчай спадчыны Скарыны на развіццё пісьменнасці. Першы раздзел ў значнай ступені ўзнаўляе афіцыйныя пастулаты з гістарычнай навукі сярэдзіны 50-х гадоў [49]. Аўтар сцвярджае, што грамадскае і сацыяльна-эканамічнае жыццё беларускага насельніцтва ў канцы XV — першай палавіне XVI ст. развівалася ва ўмовах цяжкага класавага і нацыянальнага прыгнёту, пастаяннай барацьбы беларускага і ўкраінскага народаў за ўз'яднанне з Расіяй. Палітычнае ўзмацненне Рускай дзяржавы стымулявала цэнтрабежныя тэндэнцыі, рост «агульнарускага» патрыятызму ва ўсіх усходнеславянскіх землях. Каталіцкая агрэсія была накіравана на ўмацаванне панавання польскіх феадалаў, адрыў Беларусі і Украіны ад Расіі. Аўтар яўна не ўлічваў, што Вялікае княства Літоўскае з'яўлялася самастойнай дзяржавай і ўнутраную палітыку ажыццяўлялі мясцовыя феадалы [50].

У кнізе аналізуюцца сацыяльныя і культурна-асветніцкія, гуманістычныя погляды Скарыны, дэмакратызм яго дзейнасці, моцныя і слабыя бакі ягонага светапогляду [51]. Паводле мерка-

[46] Ботвинник М. Б. Изучение жизни и деятельности Франциска Скорины в БССР//Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979. С. 124; Неміроўскі Я. Л. Скарыназнаўства: вынікі і перспектывы//Спадчына Скарыны. Зб. артыкулаў. М., 1989. С. 13—14.

[47] Ломцеў Ц. П. Скарына як пачынальнік беларускай літаратурнай мовы; Перцаў У. М. Грамадская дзейнасць і светапогляд Г. Скарыны//ВАН. 1948. № 6. С. 21—32; Сидоров А. А. История оформления русской книги. М.; Л., 1946. С. 34—36, 61—62, 67; Яго ж. Древнерусская книжная гравюра. М., 1951. С. 32, 40—42, 94—95 і інш.

[48] Чепко В. В. Общественная и культурная деятельность Георгия Скорины. Автореф. дис... канд. ист. наук. Мн., 1953.

[49] Алексютовіч М. А. Скарына, яго дзейнасць і светапогляд. Мн., 1958. С. 19—39.

[50] Там жа. С. 27—29.

[51] Там жа. С. 4, 75—121.

Яны гарманічна ўвасобілі ў сабе вопыт сталага еўрапейскага кнігадрукавання і дасягненні беларускага, у больш шырокім плане ўсходнеславянскага і славянскага кнігапісання [80].

## МАТЭРЫЯЛЬНА-ТЭХНІЧНЫЯ ПЕРАДУМОВЫ

Майстэрства вырабу шрыфтоў, матрыц, фігурных гравюр, ініцыялаў, заставак — асноўных матэрыялаў беларускага, ды і ўсяго ўсходнеславянскага і еўрапейскага кнігадрукавання — брала вытокі ў традыцыях народна-прыкладнога мастацтва, мастацкай апрацоўцы дрэва, косці, каменя, тканін, керамікі, металаў.

Развіццё гэтых сфер рамяства адбывалася на фоне агульнага гаспадарчага ўздыму. У канцы XV — першай палавіне XVI ст. асаблівае распаўсюджанне атрымалі гарбарнае, шавецкае, ганчарнае, слясарнае рамёствы. Мастацкія і эстэтычныя матывы выразна адлюстраваліся ў ювелірнай справе (залатарства), вырабе дэкаратыўнай кафлі, зброі, упрыгожванні жылля, адзення, прадметаў хатняга ўжытку і г. д.

Найбольшыя цяжкасці ў падрыхтоўцы друкарскіх матэрыялаў узнікаюць, як вядома, пры вырабе друкарскіх формаў, пунсонаў, матрыц, інакш кажучы — разьбе па дрэве, гравіраванні, тонкім і дакладным ліцці.

З глыбокай старажытнасці вядомы ручныя ткацкія вырабы з малюнкам на гатовай тканіне, так званыя набіванкі. Узор набіваўся з дапамогай дошкі з рэльефным малюнкам (звычайна — геаметрычны або раслінны арнамент) [81]. Яны прызначаліся для аздаблення жылых будынкаў, мэблі, культавага адзення [82]. Для вырабу набіўных дошак і дрэварытаў (ксілаграфій) выкарыстоўвалася практычна адзіная тэхналогія.

На Беларусі былі пашыраны розныя віды мастацкай разьбы: контурная, выемчатая, скразная па цвёрдых матэрыялах [83]. З касцей і рагоў дзікіх і хатніх жывёл (ласёў, аленяў, быкоў), з прывазных матэрыялаў («рыбін зуб» — біўні маржоў) вырабляліся дробныя мастацкія рэчы: дэкаратыўныя элементы шкатулак, «скрынь», куфраў, кубкі («рогі»), «ліхтары», аправы невялікіх абразоў («святасцяў»), шахматна-шашачныя фігуры, прадметы туалету [84]. Некаторыя вырабы з косці (абразкі, святасці,

[80] КБ. С. 13.

[81] Шлюбскі А. А. Крашаніна (набіванка). Віцебск, 1926.

[82] Шлюбскі А. А. Вывучэнне друкавання тканін//Наш край, 1927. № 8—9.

[83] Сахута Я. Народная разьба па дрэве. Мн., 1983.

[84] Высоцкая Н. Ф. Пластыка Беларусі XII — XVIII стагоддзяў: Альбом. Мн., 1983; Яе ж. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII — XVIII стст. (Альбом) Мн., 1984.



«дэісусы») [85] станавіліся самастойнымі мастацкімі творамі са складанай кампазіцыяй, рэльефнымі фігурамі, арнаментам [86]. Здаралася, што яны былі аб'ектам судовых спрэчак. «Святости две аналойныи с сребром оправленыи и три святости рибий кости сребром оправлены...» спрабаваў адсудзіць у сваёй былой жонкі гродзенскі мешчанін Багдан Хведкавіч [87].

У часы Скарыны высокага ўзроўню дасягнула разьба па дрэве. Лепш за ўсё аб гэтым сведчаць выразныя самабытныя скульптуры святых (архангела Міхаіла, Гжэгажа с Полацка, Марыі, Іаана Багаслова), трох'ярусныя іканастасы,царскія вароты з рэльефнымі кампазіцыямі [88]. Рэдкім помнікам мастацкай разьбы па дрэве з'яўляецца двухбаковы абраз пінскага свяшчэнніка Ананіі — «Премудрость созда себе храм. Праздники» [89]. Абразок мае агульную кампазіцыю, якая аб'ядноўвае некалькі асобных твораў [90]. Цэнтральная кампазіцыя ўключае выявы св. Сафіі (Прамудрасць) і багародзіцы з акружаючымі іх сцэнамі і фігурамі (цар Саламон, Іаан Дамаскін). Другая кампазіцыя змяшчае чатыры выявы хрысціянскіх свят — «каляды», «праабражэнне», «ушэсце», «успенне маці боскай» [91]. Па мастацкіх вартасцях, дэкаратыўнасці, арганічнай кампаноўцы фігур і сюжэтаў даследчыкі ставяць творы Ананіі ў адзін рад з лепшымі разнымі мініяцюрамі XV — XVI стст.[92]

Абразкі Ананіі маюць мноства надпісаў, у тым ліку дзве «аўтарскія»: «Софеи премудрость б[о]жия вроблена повелением благоверна кн[я]зя Федора Івановіча Іаросл[а]в[и]ча», унізе — «поп Ананья»; «Дана быст князем Федором Івановичем Ярославича Федороу Ивановичу Щепиноу. Робил поп Анания» [93].

Надпісы дазваляюць датаваць абразкі прыблізна першай чвэрцю XVI ст.[94] Выказана здагадка, што Ананія мог запазычыць свой сюжэт з кнігі «Прытчы Саламона», выданай Скарынам

[85] РИБ. Т. 20. С. 874.

[86] Высоцкая Н. Ф. Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва...

[87] АВК. Т. 17. С. 243. 1540 г.

[88] Высоцкая Н. Ф. Пластыка Беларусі...; Леонова А. К. Народная деревянная скульптура Белоруссии. Мн., 1977; Сахута Я. Т. Народное искусство и художественные промыслы Белоруссии. Мн., 1982.

[89] Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1. С. 216—218.

[90] Плешанова И. И. Два резных деревянных образка в собрании Русского музея//Памятники культуры: Нов. открытия. Л., 1979. С. 209—217.

[91] Там жа.

[92] Гісторыя беларускага мастацтва... Т. 1. С. 218; Прохоров Г. М. Послание Титу — иерарху Дионисия Ареопагита в славянском переводе и иконография «Премудрость созда себе дом»//ТОДРЛ. Т. 38. С. 11—13.

[93] Плешанова И. И. Два резных деревянных образка... С. 209—217.

[94] Па датах жыцця князя Фёдара Яраславіча (Уваров А. С. «Премудрость созда себе дом», принадлежащая пинскому князю Федору Ивановичу Ярославичу (1499—1522)//Сб. мелких трудов А. С. Уварова. М., 1910. Т. 1. С. 147—149).

у Празе ў 1517 г.[95] Варта адзначыць, што ў пачатку XVI ст. было створана некалькі сапраўдных шэдэўраў кніжнага і выяўленчага мастацтва, у якіх выразна падкрэслена роля іх стваральніка. Напэўна, невыпадкова ўсе аўтары, вядомыя нам па прозвішчах Мацей Дзесяты, поп Ананія, Францыск Скарына, належалі да рознага сацыяльнага асяроддзя.



Разны абраз. Пінскі разьбяр Ананія. Пачатак XVI ст.

Рэльефныя надпісы XV — XVI стст. сустракаюцца і на іншых прадметах рэлігійнага культу, у тым ліку на тураўскім малым касцяным абразе прамавугольнай формы з выявамі Спаса нерукатворнага (верхні рад) і святых Нікана і Міколы (ніжні) [96].

Беларускім рамеснікам у часы Скарыны было вядома шмат спосабаў апрацоўкі чорных, каляровых металаў, сплаваў: коўка,

[95] Гісторыя беларускага мастацтва... Т. 1. С. 217.
[96] Там жа. С. 215—216.



луджэнне, абпальванне, вараненне, насяканне, віццё, залачэнне, серабрэнне, літаванне (пайка), штампаванне, адліванне, гравіраванне, інкрустацыя, разьба і інш.[97] Ювелірныя («залатарскія») вырабы патрабавалі дакладных ліцейных форм, інструментаў, асаблівай вымяральнай тэхнікі. Шырока ўжываліся разнастайныя сплавы, у тым ліку медзь, «контрафал» (медзь з золатам), «мосяз» (латунь), бронза, цын [98].

Сярод залатароў вельмі рана аформілася цэхавая арганізацыя, спачатку ў Вільні ў канцы XV ст.[99] Беларускія ювеліры канкурыравалі з выхадцамі з іншых краін (пераважна палякамі, немцамі), якія абслугоўвалі княжацкі двор, мясцовую знаць або прадавалі свае вырабы. Яны асядалі галоўным чынам у некаторых буйных заходніх гарадах Беларусі (Брэст, Гродна, Навагрудак) і ў Вільні. У сталіцы Вялікага княства Літоўскага ў часы Скарыны працавала некалькі вядомых майстроў ювелірнай справы: Станіслаў Шчэрба [100], Станцэлярый [101], Антоній [102], Волхганг [103]. Некаторыя з іх, магчыма, супрацоўнічалі са Скарынам. Прынамсі, віленскі бурмістр Якуб Бабіч, у камяніцы якога размяшчалася друкарня Скарыны, добра ведаў Волхганга і засведчыў яго тэстамент [104]. Дзякуючы гандлёвым сувязям беларускае насельніцтва знаёмілася і з мастацкімі вырабамі замежных рамеснікаў. Імпартныя кубкі, «талерi», келіхі часта ўпамінаюцца ў тэстаментах заможных феадалаў, купцоў, «вряднікаў» [105]. Здаецца, што і мясцовыя — беларускія і літоўскія ювеліры — мала ў чым уступалі замежным умельцам. Ужо ў сярэдзіне XV ст. адзін з іх Ян Ліцвін узначальваў цэх кракаўскіх залатароў. Полацкі рамеснік, гравёр і штампавальнік Андрэйка ў 1492 г. вырабіў паўлашта (амаль тону) фальшывых манет — накшталт «вендыйскіх» — з выявамі герба і крыжа. Яго саўдзельнікі так актыўна прадавалі нязвыклы тавар рускім купцам у Рызе і Пскове, што гэта занепакоіла нават магістра Ордэна [106]. У канцы XV ст. вываз серабра ў Маскоўскае вялікае княства быў забаронены.

[97] Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV — XVIII стст. Мн., 1980. С. 87—98.
[98] Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мн., 1972. С. 169, 208.
[99] ACW. S. 2. № 1. 1495 г.
[100] ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 240, л. 170.
[101] Archiwum kziażat Lubartowiczów Sanguszków w Slawucie. Lwow, 1890. T. 3. S. 212, 226.
[102] ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 34, л. 222.
[103] РИБ. Т. 20. С. 360. 1516 г.
[104] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... С. 351.
[105] Напрыклад, у тэстаменце пана Юрыя Ільініча 1537 г. (ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 21, л. 150 адв.).
[106] Dobrowolski T. Zycie, twórczość i znaczenie spoleczne artystów polskich i w Polsce pracujących w okresie późnego gotyku (1440—1520). Wrocław; Warszawa; Kraków, 1965. S. 108—109; Horoszkiewicz A. L. Problem importu srebra w zagranicznej polityce państwa moskiewskiego w końcu i na początku XVI wieku // Zapiski Historyczne. 1982. Z. 1. S. 11—12.



Разны абраз. Пінскі разьбяр Ананія. Пачатак XVI ст.

Сацыяльны статус залатароў быў даволі высокі. Многія з іх валодалі землямі, «камяніцамі» ў розных гарадах і мястэчках Беларусі. Навагрудскі ювелір Іона Іванавіч у 1518 г. прадаў князю Канстанціну Іванавічу Астрожскаму маёнтак Ханевічы [107]; сярод полацкіх пушкароў згадваецца Кандрат Залатар [108]. Мусіць, яго подпіс 1515 г. маецца ў полацкім Евангеллі [109]. У Гродне існавала вуліца «Залатарская» [110].

Традыцыйнымі аб'ектамі ювелірнага мастацтва былі прадметы царкоўнага ўжытку: абразы, манстранцы, абклады кніг і г. д.[111] Багата аздобленыя абразы ўпрыгожвалі замкі і іншыя памяшканні беларускіх, літоўскіх, украінскіх магнатаў. Брэсцкі стараста Аляксандр Гальшанскі ў пачатку XVI ст. меў у сваім замку ў Вільні незвычайны «рускі» абраз «Панны Марыі», «на золоте, с шафирми, з рубины, с перлы», які каштаваў некалькі сот коп грошаў літоўскіх [112].

Найбольш пашыранымі на Беларусі вырабамі залатарскага рамяства (акрамя ювелірных аздоб і пасуды) былі «сыгнеты», персцені-пячаткі, якімі завяралі сапраўднасць (аутэнтычнасць) прававых дакументаў. Па сутнасці, сыгнет, які прадстаўляў сабой металічнае (залатое, сярэбранае, меднае, радчэй — касцяное) клішэ, з'яўляўся гатовай пячатнай формай з гравіраванай мініяцюрнай выявай герба, ініцыялаў уладальніка або іншых знакаў, відарысаў. Сыгнетамі карысталіся шляхта, заможныя мяшчане. Сёмы артыкул сёмага раздзелу Статута 1529 г. вызначаў, што «моцнымі» прызнаюцца тыя лісты, якія засведчаны пячаццю і подпісам, «а хто писати не умееть, тогды под печатью его и под печатми намней трех шляхтичов...» [113]

Разнастайныя сюжэты (леў, арол, коннік з мечам і дзідай і інш.), невялікі памер сыгнетаў (звычайны дыяметр адбітка ў чырвоным, зялёным, чорным воску — ад 16 да 40 мм) і галоўнае іх юрыдычная важнасць патрабавалі ад рамеснікаў-выканаўцаў дасканалых прафесійных навыкаў, майстэрства, мастацкага густу. Некаторыя сыгнеты гравіравалі і рэзалі («рылі») замежныя майстры, аднак большасць пячатак зроблена мясцовымі рамеснікамі, часам — аружэйнікамі. У 1494—1495 гг. у час судовага разбору справы пана Літавора з Войцэхам Нарбутам «о третью часть имения Талькова» (Слонімскі павет) адной са старон было

[107] ЦДГА СССР, ф. 823, воп. 1, адз. зах. 15.
[108] ОДМЮ. Т. 21. С. 231.
[109] Гранстрем Е. Э. Описание русских и славянских пергаменных рукописей. Л., 1953. С. 6.
[110] Ревизия Кобринской экономии, составленная в 1563 году королевским ревизором Дмитрием Сапегою. Вильна, 1876. С. 38—39.
[111] Штыхаў Г. В., Захарэнка П. Н. Старажытныя скарбы Беларусі. Альбом. М., 1971.
[112] РИБ. Т. 20. С. 600. № 55.
[113] Статут Вялікага княства Літоўскага 1588: Тэксты. Даведнік. Каментарыі. Мн., 1989. С. 236.



прад'яўлена абвінавачванне ў тым, што яна карысталася фальшывым лістом з падложнай пячаццю. Слонімскі баярын Талька засведчыў, што ў той час не меў пры сабе пячаткі і «росказывал булатнику печать тую вырыти...» [114]

Побач з выявай герба або нейкага іншага відарыса ў сыгнетах нярэдка змяшчаўся надпіс «рускімі» ці лацінскімі літарамі. Напрыклад, кухмістр дворны Вялікага княства Літоўскага ў пачатку XVI ст. карыстаўся сыгнетам з надпісам «печать. Петра. Олехъновича» [115], пінскі падсудак Іван Даманові у сярэдзіне XVI ст.— з надпісам «Івань» [116], Грыгорый Хадкевіч, заснавальнік заблудаўскай друкарні, меў сыгнет з надпісам лацінскімі літарамі «G. A. C.» [117]. Не трэба растлумачваць, што майстар, які мог зрабіць добры сыгнет, фактычна быў прафесійна падрыхтаваны да ксілаграфічных, гравіравальных, друкарскіх прац, вырабу матрыц, пунсонаў і іншых матэрыялаў. Найбольшая колькасць пячацяў прывешана да важнейшых дзяржаўных дагавораў: акт Гарадзельскай уніі (прысяга баяр Вялікага княства Літоўскага) 1413 г.— 45 пячацяў [118], акт 1501 г.— 40 пячацяў [119], акт Люблінскай уніі — 77 пячацяў [120]. Строга ахоўваліся дзяржаўныя пячаці, сыгнеты ўплывовых асоб, буйных феадалаў, магнатаў. Так, у сярэдзіне XVI ст. немалы клопат выклікала выпадковая страта на абедзе персценя-пячаткі члонка гаспадарскай Рады, пісара Вялікага княства Літоўскага, гродзенскага канюшыя Яна Гайкі — «золотой сигнет з гербом, который се называеть кгрыф и з написом имени своего на тым сыкгнете» [121].

«Рускія» надпісы сустракаюцца і на іншых залатарскіх вырабах. Вядомаму ў гісторыі беларускага пісьменства аршанскаму старасце Філону Кміце належаў вялікі стары пазалочаны коўш «гривен 4 з написом руским» [122]. На выраб царкоўнай пячаці Супрасльскага манастыра было зрасходавана 24 залатнікі серабра, за рыццё — чатыры копы літоўскіх грошаў. У манастыры ў першай палавіне XVI ст. захоўваліся сярэбраныя чашы з гербам кцітараў Хадкевічаў, першага архімандрыта Кімбара [123].

У XV — XVI стст. прыкметнае развіццё атрымала ліцейнае рамяство малых форм. Фрагменты ліцця і цэласныя адліўкі (крыжы, абразкі, наручныя бранзалеты, іншыя ювелірныя аздобы) выяўляюцца амаль ва ўсіх сярэдневяковых буйных

[114] Акты Литовской метрики. Варшава, 1896. Т. 1. С. 58.
[115] Acta unji Polski z Litwą 1385—1791. Kraków, 1932. S. 139.
[116] Там жа. С. 352.
[117] Там жа. С. 348.
[118] Там жа. № 39.
[119] Там жа. № 50.
[120] Там жа. № 149.
[121] ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 261, л. 46.
[122] АС. Т. 4. С. 290.
[123] Там жа. С. 51, 229.

у Празе ў 1517 г.[95] Варта адзначыць, што ў пачатку XVI ст. было створана некалькі сапраўдных шэдэўраў кніжнага і выяўленчага мастацтва, у якіх выразна падкрэслена роля іх стваральніка. Напэўна, невыпадкова ўсе аўтары, вядомыя нам па прозвішчах Мацей Дзесяты, поп Ананія, Францыск Скарына, належалі да рознага сацыяльнага асяроддзя.



Разны абраз. Пінскі разьбяр Ананія. Пачатак XVI ст.

Рэльефныя надпісы XV — XVI стст. сустракаюцца і на іншых прадметах рэлігійнага культу, у тым ліку на тураўскім малым касцяным абразе прамавугольнай формы з выявамі Спаса нерукатворнага (верхні рад) і святых Нікана і Міколы (ніжні) [96].

Беларускім рамеснікам у часы Скарыны было вядома шмат спосабаў апрацоўкі чорных, каляровых металаў, сплаваў: коўка,

[95] Гісторыя беларускага мастацтва... Т. 1. С. 217.
[96] Там жа. С. 215—216.



луджэнне, абпальванне, вараненне, насяканне, віццё, залачэнне, серабрэнне, літаванне (пайка), штампаванне, адліванне, гравіраванне, інкрустацыя, разьба і інш.[97] Ювелірныя («залатарскія») вырабы патрабавалі дакладных ліцейных форм, інструментаў, асаблівай вымяральнай тэхнікі. Шырока ўжываліся разнастайныя сплавы, у тым ліку медзь, «контрафал» (медзь з золатам), «мосяз» (латунь), бронза, цын [98].

Сярод залатароў вельмі рана аформілася цэхавая арганізацыя, спачатку ў Вільні ў канцы XV ст.[99] Беларускія ювеліры канкурыравалі з выхадцамі з іншых краін (пераважна палякамі, немцамі), якія абслугоўвалі княжацкі двор, мясцовую знаць або прадавалі свае вырабы. Яны асядалі галоўным чынам у некаторых буйных заходніх гарадах Беларусі (Брэст, Гродна, Навагрудак) і ў Вільні. У сталіцы Вялікага княства Літоўскага ў часы Скарыны працавала некалькі вядомых майстроў ювелірнай справы: Станіслаў Шчэрба [100], Станцэлярый [101], Антоній [102], Волхганг [103]. Некаторыя з іх, магчыма, супрацоўнічалі са Скарынам. Прынамсі, віленскі бурмістр Якуб Бабіч, у камяніцы якога размяшчалася друкарня Скарыны, добра ведаў Волхганга і засведчыў яго тэстамент [104]. Дзякуючы гандлёвым сувязям беларускае насельніцтва знаёмілася і з мастацкімі вырабамі замежных рамеснікаў. Імпартныя кубкі, «тарелі», келіхі часта ўпамінаюцца ў тэстаментах заможных феадалаў, купцоў, «вряднікаў» [105]. Здаецца, што і мясцовыя — беларускія і літоўскія ювеліры — мала ў чым уступалі замежным умельцам. Ужо ў сярэдзіне XV ст. адзін з іх Ян Ліцвін узначальваў цэх кракаўскіх залатароў. Полацкі рамеснік, гравёр і штампавальнік Андрэйка ў 1492 г. вырабіў паўлашта (амаль тону) фальшывых манет — накшталт «вендыйскіх» — з выявамі герба і крыжа. Яго саўдзельнікі так актыўна прадавалі нязвыклы тавар рускім купцам у Рызе і Пскове, што гэта занепакоіла нават магістра Ордэна [106]. У канцы XV ст. вываз серабра ў Маскоўскае вялікае княства быў забаронены.

[97] Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV — XVIII стст. Мн., 1980. С. 87—98.
[98] Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мн., 1972. С. 169, 208.
[99] ACW. S. 2. № 1. 1495 г.
[100] ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 240, л. 170.
[101] Archiwum kziażat Lubartowiczów Sanguszków w Slawucie. Lwow, 1890. T. 3. S. 212, 226.
[102] ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 34, л. 222.
[103] РИБ. Т. 20. С. 360. 1516 г.
[104] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... С. 351.
[105] Напрыклад, у тэстаменце пана Юрыя Ільініча 1537 г. (ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 21, л. 150 адв.).
[106] Dobrowolski T. Zycie, twórczość i znaczenie spoleczne artystów polskich i w Polsce pracujących w okresie późnego gotyku (1440—1520). Wrocław; Warszawa; Kraków, 1965. S. 108—109; Horoszkiewicz A. L. Problem importu srebra w zagranicznej polityce państwa moskiewskiego w końcu i na początku XVI wieku // Zapiski Historyczne. 1982. Z. 1. S. 11—12.

славянскія друкарні з'явіліся ў Чэшскім каралеўстве, адной з найбольш развітых у сацыяльна-эканамічных, палітычных і культурных адносінах дзяржаў цэнтральнай Еўропы.

Як мяркуюць даследчыкі, першая чэшская кніга — пераклад на чэшскую мову старажытнага свецкага рамана канца XIII ст. «Траянскай хронікі» Гвіда дэле Калоне — была надрукавана каля 1468 г.[142] На думку вядомага чэшскага асветніка Есефа Добраўскага, згаданая ў калафоне дата (1468 г.) механічна скапіравана з рукапісу. Само выданне выйшла прыкладна ў 1478 — 1487 гг.[143] Погляды Е. Добраўскага неаднаразова аспрэчваліся пазней, але большасць сучасных даследчыкаў лічаць «Траянскую хроніку» першынцам чэшскага кнігадрукавання[144].

Кніга надрукавана арыгінальным варыянтам гатычнага шрыфту, так званым чэшскім бастардам. Як адзначае чэшскі даследчык З. Таболка, ён адрозніваецца асаблівай мудрагелістасцю і сваёй каліграфіяй нагадвае слановыя хобаты[145]. Разнавіднасцямі чэшскага бастарда надрукаваны першыя чэшскія інкунабулы: акрамя «Траянскай хронікі», Новы запавет (1475), Длабачэўскі Новы запавет, «Пасіянал, або Жыціе святых Джакома дэле Варагіа». Ніводнае з гэтых выданняў не мае выхадных звестак[146]. Адносна проста ўдалося датаваць толькі Новы запавет 1475 г. Дата выдання была зашыфравана ў застаўцы кнігі. Пражскі бібліятэкар Р. Унгар у 1786 г. прачытаў схаваныя там лічбы (лацінскае «М» — 1000, арабскія — 4, 75)[147].

Амаль аднолькава з бастардам у чэшскім кнігадрукаванні з'явілася так званая чэшская тэкстура. Вядомы тры выданні, надрукаваныя гэтым шрыфтам: Statuta provincialia Arnesti (1476), Missale ecclesiae Pragensis (1479), Agenda Pragensis (1479?). Пазней у чэшскім кнігадрукаванні ўсталяваліся розныя варыянты гатычнага шрыфту (швабах, ратунда і інш.). Графіка арыгінальных чэшскіх шрыфтоў (чэшскі бастард, тэкстура) адлюстравала прыкметны ўплыў чэшскай пісьменнасці.

Чэшскае кнігадрукаванне (па сваіх знешніх формах) разві-

[142] Dobrovsky J O zavedenia rozsireni knihtisku v Cechach Praha, 1954.

[143] Dobrovsky J. Uerber die Einfûhrung und Verbreitung der Buchdruckerkunst in Böhmen // Abhandlungen einer Privatgesellschaft in Böhmen. 1782. Bd. 5.

[144] Мыльнікаў А. С. Скарына і чэшскае кнігадрукаванне // 450 год... С. 182.

[145] Tobolka Z. Dejiny československého knihtisku. Praha, 1930. S. 17; Krous E., Kircher J. Die götischen Schriftarten. Leipzig, 1928. S. 32—33.

[146] Даследчыкі лічаць, што «Траянская хроніка» выйшла ў Плзне (Ф. Горак), Новы запавет 1475 г.— у Празе (таму што «адрэдагаваны пад гусіцкім уплывам».— З. Таболка), «Пасіянал» — у Плзне («супярэчыць поглядам Гуса і Ераніма Пражскага».— З. Таболка). Новы запавет, знойдзены ў 1816 г. бібліятэкарам Страхаўскага кляштара ў Празе Б. Я. Длабачам, захаваўся ў дэфектным стане. Датуецца прыкладна 1475 — 1481 гг.

[147] Knihopis československých tisku od doby nejstarši aż do końca XVIII stoleti. Praha, 1925. N 25.



валася досыць традыцыйна. Першыя выданні шмат у чым нагадваюць рукапісную кнігу. Адсутнічаюць звычайныя элементы пазнейшага друкарскага мастацтва: тытульныя лісты, кустоды, сігнатуры, фаліяцыя або пагінацыя і г. д. Як і рукапісы, чэшскія інкунабулы пачынаюцца з інцыпіта «Začina se...». Далей друкаваўся загаловак кнігі і яе тэкст.

У 70 — 80-х гадах XV ст. чэшскія інкунабулы паступова набываюць спецыфічны выгляд друкаванай кнігі, яны мала ў чым адрозніваюцца ад іншых еўрапейскіх выданняў. Сігнатуры выкарыстоўваюцца ўжо ў Длабачэўскім Новым запавеце, у 70-х гадах з'яўляюцца нумарацыя лістоў, двухколерны друк (невядомыя друкары ў Плзні). У пражскіх выданнях Бенеды і Яна Кампа (сумесна з Я. Севярынам) у 1493, 1497 гг. сустракаюцца першыя тытульныя лісты. У другім дзесяцігоддзі XVI ст. тытульныя лісты шмат якіх выданняў Скарыны (напрыклад, пражскай друкарні М. Конача) набываюць складаныя мастацкія формы, дасканалую кампазіцыю.

З канца XV ст. у чэшскім кнігадрукаванні шырока распаўсюджваецца ксілаграфія. Багата ілюстраваныя выданні выпускала друкарня пражскага купца, члена гарадской рады Яна Севярына і ягонага кампаньёна Яна Кампа: Пасіянал (1495), 170, Новы запавет (1497), 180 ксілаграфій і інш. Даследчыкі адзначаюць мастацка-стылявое і сюжэтнае падабенства гравюр Севярына — Кампа да ксілаграфій нюрнбергскай школы Міхеля Вольгемута[148]. Некаторымі рысамі пражскія дрэварыты нагадваюць гравюры з нямецкіх выданняў «Schatzbehalter» (1495) і «Хронікі» Г. Шэдэля (1493).

Чэшскае кнігадрукаванне вылучалася жанравай разнастайнасцю, высокай удзельнай вагой свецкіх выданняў. У апошнюю трэць XV ст. чэшскія друкары выпусцілі больш за 30 выданняў рознага зместу, у тым ліку «Байкі Эзопа» (друкарня Севярына і Кампа, 1488), «Хроніку» Якуба Цвінгера ў перакладзе на чэшскую мову Бенеша з Гараховіц (Севярын, Камп, 1488), найстарэйшы з друкаваных чэшскі каляндар на 1485 г. (друкарня Яна Алакрава ў Вімперцы), творы вядомага падуанскага юрыста Якуба Каніса (Конрад Стахель, Брно, 1488) і інш.[149]

У 1488 г. у друкарні Яна Кампа ў Празе «накладам» (на сродкі) пражскіх мяшчан Я. Пытліка, С. Крамера, Яна ад Чапу, Матвея ад Белага ільва было надрукавана першае выданне чэшскай Бібліі. Другое выданне выйшла ў 1489 г. у друкарні Марціна з Тышнава (109 гравюр). У адным з варыянтаў гэтай Бібліі маецца знак Кутнай гары, у другім ён адсутнічае. У 1506 г. у венецыянскай друкарні Пятра Ліхтэнштэйна на сродкі чэшскіх

[148] Volf J. Dějiny českego knihtisku do roku 1848. Praha, 1926; Horák F. Česka kniha v minulosti a jeji výzdoba. Praha, 1948.

[149] Knihopis českych a slovenskyćh tisků od doby nejstarši... Dil I: Prvotisky do r. 1500. Dil 2: Tisky z let 1500 — 1800. Praha, 1925 — 1953.

гусітаў было надрукавана новае выданне Бібліі, адна з асноўных крыніц пражскага перакладу Скарыны. Тытульны ліст упрыгожаны гербам Прагі (тры вежы з крапаснай брамаю), на асобных шчытах надрукаваны ініцыялы пражскіх гараджан-мецэнатаў: «IH» (Jan Hlavsa), «WS» (Václav Sova), «BL» (Burian Lazar) [150].



Тытульны ліст з Чэшскай біблії. 1506

У канцы XV — пачатку XVI ст. у Чэхіі працавалі наступныя друкарні (акрамя шасці ананімных, што дзейнічалі ў Празе або ў Плзне ў 60 — 70-х гадах XV ст.): Ёгана Алакрава, Вімперца, 1484, ратунда; Конрада Стахеля і Матыяса Прэлейна, Брно, 1486 — 1499, ратунда; Яна з Высокага мыта, Прага, 1487,

[150] Kyas V. Prvni česky překlad bible. Praha, 1971.



бастард з «влівам» ратунды; Яна Севярына і Яна Кампа, Прага, 1488 — 1520, бастард; Мікалая Бакалаўра, Плзень, 1488 — 1513, швабах; Марціна з Тышнава, Кутна гора, 1489, бастард з «влівам» ратунды; Бенеды, Прага, 1493 — 1496, швабах; Матыяса Прэнлейна, Оломоуц, 1499 — пачатак XVI ст., ратунда; Ліборыюса Фюрстэнгайна, Оломоуц, 1504, ратунда; Конрада Баумгартэна, Оломоуц, 1500 — 1502, Браціслава, 1503, розныя шрыфты; Мікалая Конача з Хадзішкава, Прага, 1507 — 1528, розныя шрыфты [151].

Высокая культура друкаванай кнігі, рэлігійная талерантнасць, выгаднае геаграфічнае месцазнаходжанне Чэхіі забяспечылі чэшскаму, асабліва пражскаму, кнігадрукаванню ролю пасрэдніка ў развіцці славянскага кнігадрукавання і ў яго сувязях з краінамі Заходняй Еўропы [152].

Першым вопытам арганізацыі кірылічнага кнігадрукавання ў славянскіх краінах была кракаўская друкарня Швайпольта Фіёля. Заснавальнік друкарні, энергічны прадпрымальнік, ураджэнец Нойштадта пасяліўся ў Кракаве ў канцы 80-х гадоў XV ст. У выхадных звестках да сваіх выданняў — «Актоіха» і «Часаслова» ён так адзначыў сваё паходжанне: «мещанин краковьскы Швайпольт Фиоль из немец немецкого роду Франк» [153].

У першыя гады свайго жыцця ў Кракаве Фіёль займаўся залаташвейным рамяством, канструяваў машыны для асушэння свінцовых руднікоў. Мяркуюць, што да арганізацыі друкарні Фіёль прыступіў у сярэдзіне 80-х гадоў [154].

З вядомых даследчыкам чатырох выданняў Фіёля два датуюцца па калафону («Актоіх» і «Часаслоў»), два іншых — «Трыёдзь посная» і «Трыёдзь каляровая» адносяцца прыблізна да 1493 г. [155] Часам да выданняў Фіёля прылічаюць «Псалтыр з паследаваннем», але гэтае міфічнае выданне ніхто не бачыў. На думку К. Гейнтча, яго блытаюць з «Часасловам» [156]. Безумоўна, што ўсе памянутыя выданні не былі выдадзены ў адзін год. Пачынаючы друкар не змог бы зрабіць гэткай працы.

Згодна з дагаворам ад 4 лютага 1491 г. «рускі» шрыфт адліў Фіёлю нямецкі майстар Рудольф Барсдорф Малодшы. З тэксту дакумента вынікае, што падобны заказ ён ужо выконваў раней.

[151] Horak F. Ceska kniha v minulosti... Praha, 1948.

[152] Мыльников А. С. Чешская книга. М., 1971; Яго ж. Франциск Скорина в Праге // Белорусский просветитель... С. 24 — 33.

[153] Сводный каталог и описание старопечатных изданий кирилловского и глаголического шрифтов: Опис. изданий типографии Швайпольта Фиоля / Сост. Е. Л. Немировский. М., 1979.

[154] Немировский Е. Л. Начало славянского книгопечатания. М., 1971. С. 185 — 208.

[155] Там жа. С. 141 — 172; Францыск Скарына і яго час... С. 533.

[156] Heintsch K. Ze studiów nad Szwajpoltem Fiolem. Część I // Rocznik Zakladu Narodowego im. Ossolińskich. Wrocław, 1957. T. 5. S. 244 — 245.

Тры выданні Фіёля надрукаваны фарматам у ліст, адно — у чвэрць. Асноўнаму тэксту «Актоіха» 1491 г. папярэднічае франтыспіс з выявай распяцця, багата арнаментавана «Трыёдзь каляровая» [157]. Даследчыкі адзначаюць невысокую тэхніку набору некаторых выданняў Фіёля («Актоіх», «Трыёдзі»). Гэта, магчыма, сведчыць аб іх больш раннім паходжанні [158]. Адсутнічаюць шпацыі, дрэнна набрана правая вертыкаль, асобныя старонкі перабіраліся нанава.

Невядома, якія рукапісы былі выкарыстаны Фіёлем. Я. Л. Неміроўскі лічыць, што «Часаслоў» 1491 г. надрукаваны з маскоўскага рукапіснага прататыпу [159].

Непрыязныя адносіны польскага каталіцкага духавенства да друкавання кірылічных кніг, здаецца, перашкодзілі кнігавыдавецкай дзейнасці Фіёля. Восенню 1491 г. ён быў абвінавачаны ў распаўсюджванні гусіцкай ерасі, а ў 1492 г. гнезненскі архіепіскап забараніў продаж кніг і спробы ўзнавіць кнігадрукаванне. Гэта быў першы выпадак царкоўнай цэнзуры ў Польшчы, якую санкцыяніраваў рымскі папа.

Магчыма, што пэўная частка надрукаваных выданняў Фіёля была знішчана. Вядомы нямецкі гуманіст Конрад Цэлтыс (1458 — 1508) у 1498 г. дарэмна спрабаваў заказаць выданні Фіёля ў сваіх кракаўскіх сяброў [160]. У пачатку XVI ст. былы кнігавыдавец працуе горным майстрам на рудніках Залаты Сток (Сілезія), пазней з'яўляецца ў Левачы (Венгрыя). Памёр Фіёль у 1525 г.

Цяжка адказаць на пытанне, для каго друкаваў Фіёль свае кнігі. У навуковай літаратуры выказаны амаль усе магчымыя версіі: для пэўнай часткі польскага насельніцтва, паўднёвых або ўсходніх славян — Расіі, Украіны, Беларусі [161]. На думку Я. Л. Неміроўскага, які абапіраецца на ўладальніцкія і чытацкія запісы на кнігах Фіёля, яго выданні прызначаліся перш за ўсё рускаму насельніцтву [162]. Але гэта версія спрэчная, таму што пераважная частка выяўленых даследчыкамі маргінальных запісаў адносіцца да канца XVI — XVIII стст.

Дзейнасць кірылічнай друкарні Фіёля ў Польшчы адпавядала патрэбам беларускага і ўкраінскага насельніцтва. У яго выданнях адзначаны ўплывы заходнерускай і паўднёварускай літаратурнай і моўнай традыцый, аднак сустракаюцца ўпамінанні

[157] Немировский Е. Л. Описание изданий Швайпольта Фиоля... С. 11 — 33.

[158] Варбанец Н. В., Лукьяненко В. И. Славянские инкунабулы в собрании Государственной публичной библиотеки им. М. Е. Салтыкова-Щедрина в Ленинграде // Книга. Исслед. и материалы. 1960. Вып. 2. С. 198.

[159] Францыск Скарына і яго час... С. 533.

[160] Немировский Е. Л. Начало славянского книгопечатания. С. 205.

[161] Каспяровіч М. Віленскі беларускі музей // Наш край. 1929. № 3 (42). С. 23; Немировский Е. Л. Начало славянского книгопечатания... С. 205 — 209.

[162] Там жа.



і рускіх святых, маскоўскага мітрапаліта. У Кракаўскім універсітэце вучыліся шмат якія ўраджэнцы Беларусі і Украіны, сталіцу Польшчы стала наведвалі беларускія і ўкраінскія купцы, сюды наязджалі беларускія і ўкраінскія феадалы, буйнейшыя з іх мелі ў Кракаве свае сядзібы. Адзначым, што і ў каралеўскай



Тытульны ліст з кн.: Авяроіс «Аб сутнасці свету». 1510

канцылярыі ў Кракаве працавала нямала «рускіх» сакратароў і пісцоў. Зразумела, што кнігі Фіёля маглі знайсці попыт у самім Кракаве. Рэдакцыя выданняў Фіёля шмат у чым нагадвае аналагічныя тэксты з пазнейшых кніг Скарыны.

Ёсць бясспрэчныя звесткі, што выданні Швайпольта Фіёля ў XVI — XVII стст. распаўсюджваліся на Беларусі і Украіне. Аб гэтым сведчыць вядомы ўкраінскі пісьменнік Захарыя Капысценскі. У прыватнасці, ён адзначыў, што «Трыёдзь» Фіёля захоўваецца шмат у якіх цэрквах і манастырах «земли львовской», у дарагабужскім манастыры, на Валыні, у Падляшшы, у царкве Успення багародзіцы ў «маетности пана Богдана Сапеги,

у Празе ў 1517 г.[95] Варта адзначыць, што ў пачатку XVI ст. было створана некалькі сапраўдных шэдэўраў кніжнага і выяўленчага мастацтва, у якіх выразна падкрэслена роля іх стваральніка. Напэўна, невыпадкова ўсе аўтары, вядомыя нам па прозвішчах Мацей Дзесяты, поп Ананія, Францыск Скарына, належалі да рознага сацыяльнага асяроддзя.



Разны абраз. Пінскі разьбяр Ананія. Пачатак XVI ст.

Рэльефныя надпісы XV — XVI стст. сустракаюцца і на іншых прадметах рэлігійнага культу, у тым ліку на тураўскім малым касцяным абразе прамавугольнай формы з выявамі Спаса нерукатворнага (верхні рад) і святых Нікана і Міколы (ніжні) [96].

Беларускім рамеснікам у часы Скарыны было вядома шмат спосабаў апрацоўкі чорных, каляровых металаў, сплаваў: коўка,

[95] Гісторыя беларускага мастацтва... Т. 1. С. 217.
[96] Там жа. С. 215—216.



луджэнне, абпальванне, вараненне, насяканне, віццё, залачэнне, серабрэнне, літаванне (пайка), штампаванне, адліванне, гравіраванне, інкрустацыя, разьба і інш.[97] Ювелірныя («залатарскія») вырабы патрабавалі дакладных ліцейных форм, інструментаў, асаблівай вымяральнай тэхнікі. Шырока ўжываліся разнастайныя сплавы, у тым ліку медзь, «контрафал» (медзь з золатам), «мосяз» (латунь), бронза, цын [98].

Сярод залатароў вельмі рана аформілася цэхавая арганізацыя, спачатку ў Вільні ў канцы XV ст.[99] Беларускія ювеліры канкурыравалі з выхадцамі з іншых краін (пераважна палякамі, немцамі), якія абслугоўвалі княжацкі двор, мясцовую знаць або прадавалі свае вырабы. Яны асядалі галоўным чынам у некаторых буйных заходніх гарадах Беларусі (Брэст, Гродна, Навагрудак) і ў Вільні. У сталіцы Вялікага княства Літоўскага ў часы Скарыны працавала некалькі вядомых майстроў ювелірнай справы: Станіслаў Шчэрба [100], Станцэлярый [101], Антоній [102], Волхганг [103]. Некаторыя з іх, магчыма, супрацоўнічалі са Скарынам. Прынамсі, віленскі бурмістр Якуб Бабіч, у камяніцы якога размяшчалася друкарня Скарыны, добра ведаў Волхганга і засведчыў яго тэстамент [104]. Дзякуючы гандлёвым сувязям беларускае насельніцтва знаёмілася і з мастацкімі вырабамі замежных рамеснікаў. Імпартныя кубкі, «тарелі», келіхі часта ўпамінаюцца ў тэстаментах заможных феадалаў, купцоў, «врядніκаў» [105]. Здаецца, што і мясцовыя — беларускія і літоўскія ювеліры — мала ў чым уступалі замежным умельцам. Ужо ў сярэдзіне XV ст. адзін з іх Ян Ліцвін узначальваў цэх кракаўскіх залатароў. Полацкі рамеснік, гравёр і штампавальнік Андрэйка ў 1492 г. вырабіў паўлашта (амаль тону) фальшывых манет — накшталт «вендыйскіх» — з выявамі герба і крыжа. Яго саўдзельнікі так актыўна прадавалі нязвыклы тавар рускім купцам у Рызе і Пскове, што гэта занепакоіла нават магістра Ордэна [106]. У канцы XV ст. вываз серабра ў Маскоўскае вялікае княства быў забаронены.

[97] Булыка А. М. Лексічныя запазычанні ў беларускай мове XIV — XVIII стст. Мн., 1980. С. 87—98.
[98] Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы. Мн., 1972. С. 169, 208.
[99] ACW. S. 2. № 1. 1495 г.
[100] ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 240, л. 170.
[101] Archiwum kziażat Lubartowiczów Sanguszków w Slawucie. Lwow, 1890. T. 3. S. 212, 226.
[102] ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 34, л. 222.
[103] РИБ. Т. 20. С. 360. 1516 г.
[104] Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина... С. 351.
[105] Напрыклад, у тэстаменце пана Юрыя Ільініча 1537 г. (ЦДАСА СССР, ф. 389, воп. 1, кн. 21, л. 150 адв.).
[106] Dobrowolski T. Zycie, twórczość i znaczenie spoleczne artystów polskich i w Polsce pracujących w okresie późnego gotyku (1440—1520). Wrocław; Warszawa; Kraków, 1965. S. 108—109; Horoszkiewicz A. L. Problem importu srebra w zagranicznej polityce państwa moskiewskiego w końcu i na początku XVI wieku // Zapiski Historyczne. 1982. Z. 1. S. 11—12.

